Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 1. Нядзеля, 18 сакавіка 1928 г. м. Вільня. Г. І.



# ГРАМАДЗЯНІН

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ.

Падпісная цана на 1 месяц 50 гр, на 2 мес. 1 зл. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 4, тэл. 14-35.

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ.

ОРГАН НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ.



## НОВЫ ШЛЯХ.

Наш выхад у сьвет акурат супадае з гістарычным пераломам у настроі як польскага, гэтак і беларускага грамадзянства.

Адзнакаю гэтага пералому ў польскім грамадзянстве зьяўляюцца вынікі апошніх выбараў да Сойму і Сэнату, даўшых поўную перамогу прыхільнікам маёвага перавароту. Поўтарагадовая праца Ураду Маршалка Пілсудзкага над палепшаньнем дзяржаўнае гаспадаркі і маральнаю санацыяй з адначасоваю бязьлітаснаю барацьбаю з палітыканствам і партыйніцвам закончыліся поўным трыумфам. Толькі цяпер маёвы пераборот можна лічыць закончаным, бо папярэдні Сойм і Сэнат пры сваём партыйным складзе зьяўляліся найбольшаю перашкодаю на шляху да поўнае санацыі дзяржаўнага жыцьця.

Санацыя увайшла, нарэшце, пад дах Сойму і Сэнату.

Польскае грамадзянства ў значнай сваей колькасьці выказала сябе палітычна зусім сьпелым. Польскі Народ на уласным дасьведчаньні пераканаўся, што толькі праца, да якой ўвесь час заклікае Маршалак Пілсудзкі, можа палепшыць яго дабрабыт і ўзмоцніць палітычна-эканамічную пазыцыю Польшчы сярод іншых культурных дзяржаваў.

Найлепшым прыкладам таго, якое значэньне мае праца у жыцьці народу і дзяржавы, служыць Нямеччына. Прайграўшы вайну на палітычным фронце, яна, дзякуючы надзвычайнай працы,выйграла яе на гаспадарчым фронце. Толькі дзякуючы мірнай гаспадарчай перамозе, яна зноў заняла належнае сябе мейсца сярод вялікіх дзяржаваў. І наадварот, бальшавізм, атрымаўшы перамогу на палітычным фронце, няее увесь час паражэньні на гаспадарчым фронце. І нядольнасьць бальшавікоў да апанаваньня гаспадарчаю сытуацыяй краю бязумоўна іх пагубіць.

Ці трэба даводзіць тое, якою небясьпекаю зьяўляецца гэты пералом у настроі польскага грамадзянства для нас, беларусаў, як найбольш бедных і заняпалых у культурна-гаспадарчай галіні?

У той час, як польскі элемэнт на нашых землях значна узмоцніў сябе, сарганізаваўшыся эканамічна праз масовы ўдзел у каапэратывах, кулках рольнічых, пажычковых касах і іншых грамадзка-гаспадарчых арганізацыях, нашае грамадзянства займалася толькі палітыканствам і ўзаемнаю грызьнею, пакуль не апынулася перад разьбітым карытам. Нават на культурна-асьвятовым грунце мы не маглі абыйціся бэз ўзаемнае ненавісьці. Тры культурна-асьвятовыя таварыствы — Таварыства Беларускае Школы, Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва „Прасьвета", — адпавядаючыя акурат тром галоўным палітычным кірункам у беларускім грамадзянстве і знаходзячыя пад ўплывам адпаведных палітычных чынікаў, гэтак сама прыймаюць удзел у ўзаемнай грызьні на шкоду беднае беларускае культуры і Народу. І калі толькі гэты стан рэчы ня спыніцца, калі беларускае грамадзянства ня зьлечыцца ад партыйна-палітычнае труцізны, дык мы страцім і рэшту таго, што яшчэ маем цяпер. З намі зусім перастануць лічыцца, як з народам, здольным да творчае працы.

Пры гэтым можам сьцьвердзіць, што беларускае грамадзянства само пачынае паволі ачухвацца ад гэтага палітычнага чаду. Лепшым доказам гэтага зьяўляецца амаль ня поўны правал на выбарах яшчэ нядаўна магутнае Грамады, якая найбольш уносіла труцізны ў беларускае грамадзянства і найбольш хва-

вала добрыя адносіны між беларускім і польскім братнімі народамі. Яна здолела правясьці да Сойму толькі трох паслоў, дый то з сваей правіцы.

Новы аздароўляны і узмоцняны кірунак у палітычна-гаспадарчым жыцьці Дзяржавы вымагае і ад нас, Беларусаў, адпаведнага прыстасаваньня да гэтага стану рэчы. Павінны быць пастаўляны на агульны рэчовы і супакойны суд усе нашыя старыя грахі і накрэсьляны новы агульна-беларускі нацыянальны шлях да лепшае будучыны.

Дзеля гэтага, спыняючы далейшае выданьне „Беларускага Слова“, якое гэтак сама, як і іншыя беларускія часопісі, часта грашыла ў агульным кіраўніцтве палітыкаю і брала ўдзел у агульным хору ўзаемнай беларускай грызьні і лаянкі,—мы выступаем на грамадзкую арэну з новым органам пад назваю „ГРАМАДЗЯНІН“.

Стоячы на грунце польскае дзяржаўнасьці, „ГРАМАДЗЯНІН“ будзе заклікаць сваіх чытачоў перш-на перш да **лёяльнага і суменнага выкананьня сваіх грамадзкіх абавязкаў**, як у адносінах Дзяржавы, гэтак сама і свайго мнагапакутнага Народу.

Вольны ад палітыканства і палітыкі ў тым дрэнным сэнсі, як яна разумецца у нас— узаемная лаянка і шальмаваньне, — „ГРАМАДЗЯНІН“ будзе заклікаць беларускае грамадзянства да **культурнае працы**, бо толькі культура яднае і духоўна ўзмацняе, ў той час як палітыка дзеліць, сварыць і губіць.

Будзе заклікаць да **працы наагул**, бо толькі узмоцненаю працаю мы здалеям выляччыцца ад старай хранічнай хваробы і палепшыць наш дабрабыт.

„ГРАМАДЗЯНІН“ першым бярэ на сябе ініцыятыву правядзеньня сярод бялорускага грамадзянства **маральнае санацыі**, без якой яно зусім можа задыхнуцца ў атручанай ўзаемнай ненавісьцю палітычнай атмасфэры.

І мы пэўны, што беларускае грамадзянства, пераканаўшыся у шкадлівасьці папярэдніх шляхоў, па якім блукалася да гэтае пары, шчыра адклікнецца на наш заклік да **нацыянальнае еднасьці, культурнае і гаспадарчае працы на карысьць свайго Народу і Краю.**

# ЗА ТЫДЗЕНЬ.

Пасьля часовага стлуменьня сырыйскага паўстаньня, марокскага і ангельска-эгіпецкага канфлікту ў 1924 г. Блізкі Усход зноў заварушыўся. На гэты раз падзеі пачынаюць разыгрвацца на абыдвух баках Суэцкага каналу, гэта значыць у самым балючым для Англіі месьці. Маюцца на ўвазе ангелйска-эгіпецкі канфлікт і вагабіцкае паўстаньне ў Арабіі.

Эгіпет каштоўны для Англіі з двох бакоў: гаспадарчага, як найпаважнейшы дастаўца хлопку і палітычна-стратэгічнага, як абарона з заходу Суэцкага каналу, знаходзячага пад ангелійскім пратэктаратам. Дзеля гэтага, ня гледзячы на тое, што Эгіпет зусім дасьпеў для незалежнага палітычна-гаспадарчага жыцьця, мае свайго караля, урад, парлямэнт і нават дыплёматычныя прадстаўніцтва, ніяк ня можа пазбавіцца няпрошанай англійскай апекі. І вось на грунце імкненьня эгіпецкага народу да поўнае незалежнасьці з аднаго боку і захаваньня Англіяй сваей апекі над Эгіптам, як былшай яшчэ нядаўна сваей колёніяй, з другога боку і вынікаюць сталыя англійска-эгіпецкія канфлікты, якія, як вулкан, то загашаюць. то зноў выбухаюць. Апошні такі выбух быў у 1924 г., калі пасьля замардаваньня англійскага сірдара (галоўны камандзір эгіпецкай арміі) Лі Стэка суданцамі ледзьві не дайшло да аружнай спрэчкі. Найбольшым ворагам Англіі і змагаром за незалежнасьць эгіпецкага народу быў Заглул-паша, займаўшы некалькі гадоў становішча эгіпецкага прем'ера і быўшы фактычным дыктатарам Эгіпту. Пасьля сьмерці Заглул-пашы заступнік яго Сарват-паша, больш умяркаваны, імкнуўся да паразуменьня з Англіяй шляхам дыплёматычных гутарак, хацяж яму шмат перашкаджалі нацыяналістыя ў парлямэнце, якія складаюць большасьць.

Пасьля доўгіх перагавораў з англійскім міністэрствам заграгічных справаў і высокім камісарам лёрдам Лойдам былі накрэсьляны пункты згоды, як напр.: Эгіпет войдзе у Лігу Народаў, заместа высокага англійскага камісара будзе вызначаны англійскі пасол, суданская справа будзе вырашана паводле жаданьня ўЭгіпта, англійская армія застанецца ў Эгіпце толькі 10 гадоў. У Судане зноў будзе ўзноўлена ўлада і армія Эгіпту. Эгіпет з свайго боку забавязуецца не заключаць ніякіх міжнародных дагавораў без згоды Англіі.

А калі гэты дагавор быў апублікаваны, эгіпецкія нацыяналістыя на чале з Мустафой пашой Нага адхілілі гэтае паразуменьнэ ў парлямэнце. Сарват-паша выйшаў ў адстаўку. І цяпер Англія стаіць перад труднаю дылемаю: развязаць эгіпецкі парлямэнт, вызначыць прыхільны для сябе

урад, наразіўшы проці сябе эгіпецкіх нацыяналістаў, якія карыстаюцца вялікаю сымпатыяй ў Індыі, ці пайсьці на далейшыя кампраміси перад Эгіптам?

У сувязі с падзеямі у Эгіпце знаходзіцца бязумоўна і паўстаньне вагабітаў у Арабіі. Гэта вяўнічае арабскае плямя, займаючае палуднёвую частку Арабскага паўвострава, якое часта рабіла напады на мандатныя англійскія каралеўствы Зайярдань і Урак у Месапатаміі. Каб абараніць сябе ад гэтых нападаў, Англія выплачвала каралю вагабітаў Ібн Сауду сталую пэнсію ў суме 60,000 фунт. штэрлінгаў у год. Але пасьля 6 гадоў яму была спынена гэтая пэнсія. Мусіць Ібн Сауд захацеў зноў атрымаць ад англічанаў субсыдыю, калі хапіўся за шаблю.

Небясьпека вагабіцкага паўстаньня палягае на тым, што пасьля скасаваньня каліфату ў Турцыі і захопу вагабітамі сьвятых магамэтанскіх местаў Мэкі і Мэддзіны, Ібн Сауд аб'явіў сябе абаронцам ісламу на зямлі. Гэткім чынам яго заклік да сьвяшчэнай вайны меў бы паслух сярод усіх магамэтанскіх народаў, як Эгіпет, Марока, Месапатамія, Пэрсія, Індыя і інш. Праўда, ён яшчэ ня аб'явіў сьвяшчэнай вайны, але яго 300,000 храбрых наезьнікаў на лепшых у сьвеце арабскіх конях могуць нарабіць шмат клопату англічанам. Даволі прыпомніць, колькі клопатаў нарабілі Гішпаніі і Францыі мараканцы пад кіраўніцтвам храбрага павадыра Абдэль Крыма, пакуль супольнымі высілкамі ня было стлумлена гэтае паўстаньне. Бязумоўна і Ібн Сауд мае падтрыманьне ад ворагаў Англіі, як Турцыя, бальшавікі і немцы. А пакуль што англічане падвозяць з Індыі, Мальты, Эгіпту і іншых мейсц ваенныя падсілкі: аэрапляны, танкі, браніраваныя аўтамабілі і ваенны флёт. А для перагавораў з Ібн Саўдам англійскі урад выслаў на Блізкі Усход свайго найлепшага ведача ўсходніх справаў Жыльбэрта Клейстона, які мусіць зноў запрапануе ўзбунтаваўшаму арабу пэўную кантрыбуцыю.

Апошняя сэсыя Рады Лігі Народаў, якая зачынілася 10 сакавіка, не выклікала вялікага зацікаўленьня да сябе. Як і на папярэдніх сэсыях, галоўныя гутаркі вяліся за кулісамі, ў прыватных салёнах. Штрэзэман канфэраваў з Чэмбэрленам і Брыянам, міністар Залескі з Штрэзэманам і г. д. На гэтых прыватных гутарках абгаварываліся пытаньні аб эвакуацыі Прырэйнскай вобласьці, Танжэрскі, нямецка-польскія гандлёвыя перагаворы і г. д.

На агульным паседжаньні разглядалася толькі пытаньне аб тайным правозе з Італіі да Вэнгрыі 5,000 кулямётаў пад відам часткаў машынаў, што было зусім прыпадкова уяўнена аўстрыйцамі у С. Готардзе. Але акачнальнай пастановы па гэтаму пытаньню ня

# На папярэдню 10-х угодкаў Нёзалежнасьці Беларусі.

10 гадоў назад, у Менску 24 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі на паседжаньні сваім пастанавіла, а 25 сакавіка абвесьціла акт незалежнасьці Беларусі.

Вучастнікамі гэтага гістарычнага акту ў сучасны момэнт тутака ў Зах. Беларусі мы маем грамадзяніна Тодара Вернікоўскага, Макара Косьцевіча, Язэпа Мамоньку, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Антона Аўсяніка, Алексея Уласава, Антона Луцкевіча і Я. Станкевіча.

Знаходзячыся з 1569 г., г. ё. з Люблінскай Уніі пад Польшчаю, а з падзелу Польшчы — пад Расеяй, нашая інтэлігэнцыя ў большасьці альбо апалячылася, альбо абмаскалілася, а новая моладзь—сыны нашага Народу, ў імкненьні да навукі і самаўзгадаваньня змушаны былі тады спачатку выхоўвацца ў школах польскіх, а пасьля ў школах расейскіх.

Дзякуючы падабеньству нашае мовы да іншых славянскіх моваў, мы лёгка даваліся да асыміляцыі і сталася тое, што ў патрэбны момэнт, дзякуючы страце вонкавых адзнакаў сваяе мовы, нашая інтэлігэнцыя апынулася быццам адарванай ад Народу і ў свой час не змагла выкарыстаць таго, што ўдалося Літве, Латвіі і Эстоніі. Хаця гэта і ня было галоўнай прычынаю таго, што лёсам гісторыі Беларусь засталася падзеленай на 2 часткі, але, як бачыма, і у далейшым яна ўплывае на нармальны ход і разьвіцьце беларускага адраджэнскага руху.

І тамака, дзе ўжо ёсьць, быццам, „незалежная“ Беларусь, дзе ўжо даўно, можа ўмысна, а можа і не, але з цяжкімі высілкамі праводзіцца гэтак званая „беларусізацыя“—і тамака гэтая прычына грае не апошнюю ролю у адчуваньню дзяржаўнае незалежнасьці. І ўсё гэта дзеля таго, што нашая, украінская, велікаруская і польская мовы маюць адныя і тыя карэньні, шмат аднальковых слоў і адна аднэй зразумелыя, што і шкодзіць нармальнаму разьвіцьцю адраджэньня.

Гэтая ж прычына адыгрывае ролю у нас і да гэтага часу, і нажаль на шкоду нам самім і Народу дзеліць нашаю інтэлігэнцыю на варожыя лягэры, на захаваўшых у поўнай меры беларускую мову, гэтак званых „патэнтаваных“ беларусоў, якія прыўласьцілі сабе манаполь на кіраваньне палітычным жыцьцём і на менш захаваўшых сваю мову, якіх „патэнтаваныя“ не прызнаюць і называюць „тожэ“ ці „тэж беларусамі. Аднак-жа як тыя, так і іншыя ёсьць такія самыя сыны аднае нашае Бацькаўшчыны, хаця і шукаюць у розных кірунках паляпшэньня долі шматпакутнага свайго Народу.

У 1921, 1922 і 23 гадох, калі на палітыч-

выясяна. Вызначана была толькі камісія з трох асобаў, якая павінна высьвятліць гэтую справу на мейсьці. Польска-літаўскі канфлікт зусім не разглядаўся дзеля таго, што упарты Вальдэмарас адмовіўся прыбыць у Жэнэву, ня глядзячы на запросіны сэкрэтарыяту Лігі Народаў.

N.

## Вынікі выбараў да Сэнату.

| | | |
|---|---|---|
| Сьп. № 1 | — Блёк Супр. з Ур. | 48 |
| „ № 2 | — P. P. S. | 10 |
| „ № 3 | — Вызваленьне | 7 |
| „ № 7 | — N. P. R. | 3 |
| „ № 8 | — Сял. раб. | 1 |
| „ № 10 | — Партыя Хл. | 3 |
| „ № 17 | — Жыд. Нац. Аб'ядн. Гал. | 1 |
| „ № 18 | — Бл. Н. Мен. | 21 |
| „ № 21 | — Нар. Дзярж. Блёк Працы. | 1 |
| „ № 24 | — Эндэкі | 9 |
| „ № 25 | — Пяст і Ch.-D. | 6 |
| „ № 37 | — Сьпіс. Карф. | 1 |
| | Разам | 111 |

### Папярэдні склад Сэнату.

| | 1922—1928 г. |
|---|---|
| Блёк Марш. Пілсудзкага | — 49 |
| Эндэцыя | 41 — 9 |
| P. P. S. | 7 — 10 |
| Пяст. Ch. D. і Карф. | 22 — 7 |
| Вызваленьне Str. Chł. | 11 — 10 |
| N. P. R. | 3 — 2 |
| Блёк Нац. Менш. | 11 — 10 |
| Жыд. Аб'ядн. | — 1 |
| Сельроб правіца | — 1 |
| Блёк Укр. Сац. | — 1 |
| | 111 — 111 |

## Аканчальны склад Сойму і Сэнату.

| | Сойм | Сэнат |
|---|---|---|
| Блёк Марш. Пілс. | 135 | 49 |
| Эндэцыя (Z. L. N. Ch. N. | 37 | 9 |
| Пяст і Ch.-D. | 34 | 7 |
| N. P. R. | 9 | 2 |
| Związek Chłopski | 3 | — |
| Wyzw. i Str. Chł. | 62 | 10 |
| P. P. S. | 63 | 10 |
| Chł. Str. Rad | 56 | 21 |
| Жыд. Нац. Аб'яд. | 6 | 1 |
| Сельроб. (правіца) | 5 | 1 |
| Сельроб (лявіца). | 4 | 1 |
| Рас. Нар. Аб'ядн. | 1 | — |
| Блёк Укр Сац. Сал. і Раб. | 11 | 1 |
| Іншыя дробн. пар. | 12 | — |
| Камуністыя | 5 | — |
| Разам | 444 | 111 |

### Беларусы ў Сойме і Сенаце

Да Сойму прайшлі наступныя паслы: ад Сялянскага Саюзу—Ф. Ярэміч і К. Юхневіч. Ад Хадэкаў—С. Стэповіч і П. Каруза Ад Грамады (правіца) Стагановіч, Дварчанін і Савонь.

нае павадырства „патэнтаваных" беларусоў яшчэ ніхто ня прэтэндаваў, нашае віленскае беларускае грамадзянства жыло адзінай сямьёй, сплочанай адзіным духам нацыянальнасьці, ня глядзючы нават на тое, што ўжо тады палітычныя думкі выліваліся ў трох кірунках — заходнім, усходнім і літоўскім.

У Грамадзянскім Сабраньні на Біскупяй 12 побач з Антонам Луцкевічам, Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім, Смолічам, Тэрэшчэнка, Пракулевічам і іншымі можна было тады бачыць і ксендза Станкевіча, і Алексюка, Ярэміча і Верніхоўскага, і Кахановіча, і Аляхновіча і Л. Радзевіча, і І. Жылку і шмат іншых, каго лёс закідываў у нашую Вільню, дзе яны знаходзілі заўсёды у сваей беларускай сямьі гасьцінасьць і падтрыманьне.

Гэтак было тады, да 1924 г. Апошняе ўрачыстае, агульнае, дружнае сьвяткаваньне ўгодкаў незалежнасьці Беларусі адбылася ў 1923 г. у тым-жа Грамадзянскім Сабраньні, наладжанае у імяні Пасольскага Клюбу паслом Ярэмічам і Урадам Грамадзянскага Сабраньня Гэта была лебедзіная песьня рэпрэзэнтацыі адналітасьці, моцы і сплочаннасьці нашае адрадзіўшайся інтэлігэнцыі.

Ад 1924 году ужо пачаліся паасобныя спрэчкі і лаякі некатарых дзеячоў за павадырства. Гэтыя спрэчкі з кожным годам ўсё набухалі, уцягвалі ўсё больш і больш асобаў, пакуль нарэшце ў 1926—7 гадох, як з прарваўшайся плаціны у паводку—не залілі ўсю нашаю беларускую прэсу лаянкамі, грызьнёй, брудамі дый рожнымі інсынуацыямі. Сталася немагчыма. Не да вытрыманьня. Не шкадавалі ні веку, ні заслугаў перад Бацькаўшчынай, ні сану, ні тых, якія за Бацькаўшчыну пакутуюць у турмах, ні выразаў, ні тэрміналёгіі.

А на вёсках сяляне хапаліся за галаву і на падайшоўшых выбарах да Сойму ня ведалі, што рабіць. Некатарыя плакалі.

І як вынікі усяго — заместа 20—30 паслоў, у Сойм папала толькі 9. І гэта у той час, калі сьвядомасьць вёскі дайшла амаль што не да нормы...

Але выбары прайшлі... Можа ўжо страсьці прастыглі. Хай тыя, хто прайшоў да Сойму і Сэнату, успакоіцца на сваіх пасольскіх лаўрах. Хай-жа нашая інтэлігэнцыя азірнецца на пройдзенае і сумна паківае галавой. Хай жа яна цяпер апамятаецца і ўплывае ў будучыне на сваіх павадыроў. А надходзячыя 10-тыя угодкі Незалежнасьці Беларусі у сваім сьвяткаваньню хай спыняць нарэшце шкодную, нікому не патрэбную братабуйчаю грызьню і як калісь — злучыць усіх, незалежна ад партыяў і палітычных кірункаў, у адзінаю, моцнаю нацыянальным духом сямью!

Адгукніся інтэлігэнцыя! Аздараўляй душную атмасфэру і выконвай свой абавязак!

„Грамадзянін" кліча, а вёска чакае...

*Стары Беларус.*

Ад Сялянскага Саюзу № 2— Янка Станкевіч і Ф. Валынец. Да Сэнату—Багдановіч (ад Бел. Дэмакр. Прав. Аб'яднаньня) і В. Рагуля — ад Сялянскага Саюзу.

# ПОЛЬСКАЯ ПРЭСА АБ ВЫБАРАХ.

Абгаварваючы вынікі выбараў да Сойму, „Kur. Por." падкрасьляе, што вялікі пасьпех адзінкі даказвае перш-на-перш поўную паражку партыяў, якія да гэтай пары займаліся партыйна-палітычнай дэмагогіяй і сьпекулявалі на лёгкіх для ўзбуджэньня інстынктах цемнаты.

„Głos Prawdy" піша, што ў гэтых выбарах выявіўся цьвёрды сэнс маёвага перавароту на самым трудным грамадзкім грунце.

Эндэцкая „Gaz. Por." прызнае паражку даўнейшай васьмёркі (блёк эндэцыі і Пяста), якая утраціла 160 мандатаў і што № 1 перамог, дзякуючы аўтарытэту імяні Маршалка Пілсудзкага.

У той-жа час эндэцкая „Gaz. Warszawska" падкрэсьляе, што Блёк супрацоўніцтва з Урадам ня можа рахаваць на перамогу у парлямэнтарным сэнсі, бо ня толькі ня будзе мець большасьці у Сойме, але нявядома нават, ці здалея стварыць гэтую большасьць з якой-небудзь іншаю групаю. Газэта лічыць, што выйшла з выбараў з пасьпехам толькі радыкальна-грамадзкая і палітычная група, якая налічвае ў новым сойме 100 мандатаў, а пры падтрыманьні нацыян. меншасьцяў, камуністаў і дробных радыкальных групаў можа стварыць большасьць у Сойме

У „Warszawiance" праф. Стронскі тлумачыць паражку сьпіску правіцы тым, што не дастасаваліся да пастарскага пісьма і заместа аднаго каталіцкага сьпіску стварылі некалькі.

У „Robotnik'у" М. Недзялкоўскі піша, што ў выніку выбараў для Р. Р. S. стварыліся дзьве цёмныя плямы, якія трэба ацаніць чэсна, сьмела, без дэмагогіі і фалшывага сораму. Плямамі гэтымі зьяўляюцца—паражка Р. Р. S. у Варшаве і Донброўскім басэйні. Польская Соц. Партыя павінна і далей стаяць на становішчы абароны парлямэнтарнай дэмакрацыі і безаглядцнай апазыцыі проці цяперашней сыстэмы ўрадаваньня.

Кракоўскі „Illustr. Kur. Codz." піша: Выбары 4 сакавіка зьяўляюцца перш-на-перш вялікім асабістым трыумфам першага Маршалкі Пілсудскага.

Партыі, якія абвесьцілі прынцыповую апазыцыю проці ўраду (Нарадовая Дэмакрацыя і група Строньскага), ці якія ў папярэднім сойме выступалі проці Маршалка ў восемкапяставай кааліцыі (Ch. D. — Пяст), разгромляныя. На выбарах 1922 г. здабылі разам 233 мандаты, а цяпер з мандатамі па дзяржаўнаму сьпіску атрымалі 70—71 мандат. А блёк супрацаўніцтва з урадам разам з 2 пасламі сьпіску № 30 і 5 пасламі сьпіску № 21 у Галіцыі складае каля 140 мандатаў.

Работніцкая і сялянская лявіца утрымала сваю пазыцыю.

Вынікамі выбараў на Усходніх Крэсах можам быць задаволянымі. Адзінка на Валыні здабыла 10 мандатаў на агульную лічбу 16, у той час, як на папярэдніх выбарах ня было праведзена там аніводнага польскага пасла.

Гэтак сама і вынікі выбараў на Палесьсі, Наваградчыне і Віленшчыне можам лічыць здавальняючымі, бо польскія сьпіскі атрымалі поўную перамогу.

У Пазнанскім і на Паморы немцы не павялічылі сваіх галасоў.

Агульная лічба паслоў, належачых да нац. меншасьцяў, складвае каля 80. Прыняўшы пад увагу, што ў папярэднім Сойме, пры байкоце выбараў украінцамі, нац. меншасьці мелі гэтак сама 80 паслоў, можам лічыць вынікі цяперашніх выбараў для сябе задавальняючымі.

Львоўскае „Słowo Polskie" піша: „У трох усходня-галіцыйскіх ваяводзтвах на 57 мандатаў польскія сьпіскі атрымалі 23 мандаты у параўнаньні з 20 мандатамі „украінскіх" сэпаратыстаў (№ 18), 6 мандатаў сіяністаў, 4 камунізуючых украінскіх радыкалаў і 4 расейска-камуністычнага „сельробу".

Гэтыя вынікі перавышаюць самыя сьмелыя нашыя надзеі, бо разлічалі пры поўнай згодзе між польскімі партыямі толькі на 18 мандатаў, а пры разьбіцьці польскіх галасоў маглі атрымаць ня больш 12. А між тым здабылі 23, толькі на 11 менш, чым у 1922 г., калі украінцы ня прыймалі у выбарах ніякага ўдзелу.

# АПОШНІЯ НАВІНЫ.

ПОЛЬШЧА.

## Польска-літоўскія перагаворы.

Польскі Ўрад афіцыяльна поведаміў Літву, што згаджаецца на распачацьце перагавораў аб урэгуляваньні польска-літоўскіх адносінаў 30 сакавіка ў Кэнігзбэргу. Калі на чале літоўскай дэлегацыі будзе стаяць Вальдэмарас, дык старшынёю польскай дэлегацыі будзе міністар Залескі.

## Асуд забойцаў куратара Сабіньскага.

У Львові закончыўся працэс забойцаў куратара Сабіньскага. Суд прысяжных прызнаў Базыля Атаманьчука і Янку Вербіцкага вінаватымі ў забойстве і шпіянажы і прыгаварыў абодвых на сьмяротную казьць праз павешаньне. 8 асуджаны на 1 — 2 г. турмы і 7 унявіняны.

З ЗАГРАНІЦЫ.

## Новы тройствянны хаўрус?

Празкая газэта „Prager Tageblatt" зьмясьціла вельмі ці-

кавы рэволяцыйны артыкул пад назвою „Новы тройсгвяяны саюз". Аўтарам гэтага артыкулу зьяўляецца пэўны чынны дыплёмат з Жэнэвы.

Гэты дыплёмат сьцьверджае, што ў часе папярэдняй сэсыі Лігі Народаў быў заключаны хаўрус міжАнгліяй,Францыяй і Італіяй з мэтаю супрацаўніцтва гэтых трох дзяржаваў быццам за межамі эўропэйскага кантынэнту, а запраўды гэты хаўрус акрэсьляе цеснае супрацаўніцтва і ў вобласьці эўрапэйскай палітыкі.

На кшталт згоды з 1904 г. калі заместа Італіі была Расея, хаўрус гэны заснаваны на вусным дагавору. Ініцыятыва гэтага хаўрусу выйшла ад Англіі, якая хоча абараніцца ад палітычнай небясьпекі з боку бальшавізму і гаспадарчай з боку Нямеччыны. Гэткім чынам гэты хаўрус скіраваны проці Радавае Расеі і Нямеччыны.

Англія і Італія гварантуюць падтрыманьне Францыі ў выпадку нападу з боку Нямеччыны, а Англія з свайго боку забавязваецца зменшыць свой сродземнаморскі флёт.

Наадмен гэтага францускак дыплёмацыя зьмяніла свой папярэдні палітычны сярэдняэўрапэйскі кірунак, адрокшыся ад аслоны на Малую Антанту, асабліва на Чэха-Славакію. За гэтае Англія ўстрымляецца ад пратэкцыі адносна Юга-Славіі, а Мусаліні даў да зразуменьня Румыніі, што далейшае яе падтрыманьне будзе залежыць ад пазыцыі яе адносна Вэнгрыі і Баўгарыі. Затым Італія атрымлівае свабоду дзеяньня на Адрыятычным моры і на Балканах.

Вынікамі гэтага паразуменьня зьяўляецца вызначэньне новага англійскага пасла Тыгэля ў Парыж і францускага Бомаршэ ў Рым.

Затым Англія абяцала помач Японіі на выпадак канфлікту з Паўночнаю Амэрыкай, за процідзейства савецкай агітацыі ў Азіі. Нарэшце новыя хаўрусьнікі ўзаемна забавязваюцца бараніць цяперашні стан пасяданьня ў калёніях.

Зразумела, што ня можна прыняць гэтыя рэвеляцыі за факт, але ў іх шмат ёсьць праўдападобнага.

## Зьверствы камуністаў у Кітаі.

З Хэнькоў у Кітаі паведамляюць аб страшных зьверствах камуністаў у Лей-Янгу (правінцыя Квантунга). Банды камуністаў разам з сялянамі спалілі дамы усіх заможных жыхароў места, зачыніўшы іх з сямействамі ў гэтых дамох. Гэткім чынам было вымардавана некалькі сотняў жыхароў. Церад сьмяротнаю караю ў няшчасных ахвяраў выколывалі вочы, адразалі вушы і г. д.

ЛІТВА.

## Упартасьць Вальдэмараса.

На запросіны справаздаўцы па польска-літоўскаму пытаньню ў Радзе Лігі Народаў прадстаўніка Галяндыі Блёкландава прыехаць да Жэнэвы літоўскі прэм'ер Вальдэмарас адказаў, што ня бачыць прычыны, дзеля якой меў бы прыехаць да Жэнэвы. Гэты нетактоўны адказ выклікаў у колах Лігі Народаў вялікую незадаволеннасьць.

## Сэнсацыйныя арышты ў Коўні.

Вялікую сэнсацыю ў Коўні выклікалі арышты былага міністра ўнутраных справаў Драўгяліса і б. пасла сойму Мікшыса. Як Драўгяліс, гэтак сама і Мікшыс гралі вялікую ролю ў палітычным і гаспадарчым жыцьці Літвы. Абыдва яны арыштаваныя за тое, што, атрымаўшы ад ваеннай інтэндатуры падрады па дастаўцы для літоўскай арміі сала, дастаўлялі заместа літоўскага горшае амэрыканскае, а клеймы былі заменяны літоўскімі. Разам з імі арыштавана некалькі ваенных і жыдоў, агульным лікам 20 чалавек. Усе арыштаваныя пасаджаны ў турму для асуджаных на цяжкую працу.

## Скасаваньне парлямэнтарызму.

Нямецкае тэл. агэнства падае з Коўны на падставе поўурадавай „Lietuvos Aidas", што Вальдэмарас мае замер скасаваць на Літве парлямэнтарны лад, пашырыўшы правы гандлёвай і ральнічнай палаты, якія створаць новую палату працы. Затым будзе створаная вышэйшая палата на кшталт сэнату з вызначанымі урадам сябрамі. Гэтыя дзьве палаты павінны выконваць заканадаўчыя функцыі.

ЛАТВІЯ.

## Міжнародая жыдоўская камуніст. арганізацыя.

З Рыгі паведамляюць, што там паліцыя арыштавала 5 камуністых, якія прыехалі з Літвы з мэтаю заложэньня аддзелу міжнароднай жыдоўскай камуністычнай арганізацыі. Цэнтраля гэтай арганізацыі быццам знаходзіцца ў Польшчы. Аддзелы ёсьць у Літве і прыбалтыйскіх гарадох. Пры арыштаваных знойдзена шмат камуністычнай літэратуры і іншага кампрамітуючага матар'ялу.

С. С. Р. Р.

## Гібель прыватнага гандлю ў С. С. Р. Р.

Камісарыят гандлю С.С.Р.Р. паведамляе, што роля прыватнага капіталу за апошнія 4 гады ў таваравым руху усяе дзяржавы паменшыўся з 38,2% да 18,2%. Лік прыватных крамаў зменшыўся на 102,898.

## Змова ці правакацыя?

Бэрлінскія газэты падаюць тэлеграмы з Масквы аб тым, што быццам у Данецкім басэйну выкрыта антыбальшавіцкая змова. „Berl. Tgl." піша, што мае правідловыя інфармацыі па гэтаму пытаньню, толькі ўстрымліваецца ад апублікаваньня. А „Taegl. Rundschau" проста дапушчае, што гэта звычайная бальшавіцкая правакацыя, на якія часта пушчаюцца бальшавікі пры помачы сваіх агэнтаў.

## Насяленьня Радавае Расеі.

Маскоўскія „Ізвесьця“ ад 4 сакавіка падаюць вынікі агульнай цярэпісі насяленьня на тэрэні Радавае Расеі, якая закончылася ў 1926 г. Паводле гэтых даных насяленьне Радавае Расеі дасягала 146,986,000. Жанчын больш чым мужчынаў на 5 мільёнаў.

Чыстых расейцаў ёсьць 77,760,100, ці 52,9%, украінцаў—31,194,800 (21,2%), беларусаў—4,738,900 (3,2%), казакаў — 3,959,900 (2,7%), узьбекаў — 3,904,500 (2,6%), татараў — 3,015,200 (2%), жыдоў 2,600,900 (1,8%). Затым ідуць грузіны, туркмены, армяне, немцы і г. д. Палякі займаюць 15 мейсца—782300 (0,5%).

## 100 аэрапланаў.

Паводле загаду рэвалюцыйнай ваеннай рады на грошы фонду „Наш адказ Чэмбэрлену“ выбудавана ужо 100 новых аэрапланаў. 35 штук было перадана чырвонай арміі на ўгодкі кастрычнікавай рэвалюцыі, а рэшта 65 перадаюцца цяпер.

### З УСХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

## „Тэмп рэалізацыі пазыкі трэба ўзмацніць“.

„Сав. Бел.“ (№ 47) сьцьвердзжае поўны правал дзяржаўнае пазыкі. Відаць сяляне зусім ня хочуць падпісвацца на пазыку. Вось якія загалоўкі карэспандэнцыяў з мейсц:

„Узмацніць працу“. Заслаўль. Пакуль выканалі менш 10% заданьня. (Заданьне на паперы лёгка зрабіць, але ня гэтак лёгка выканаць Рэд.).

„Зусім нікчэмныя вынікі“. Капыль. Заместа 60,000 р. з пачатку кампаніі рэалізавана толькі 3,740 р.

„Ня выканалі і 6% заданьня“. Сьмілавічы. У Сьмілавіцкім раёне нявыканана яшчэ і 6% заданьня.

„Зроблена мала“. Водлуг вестак да 15 лютага на Б.С.С.Р. рэалізавана сялянскай пазыкі на 337,800 руб., што складае усяго 10,6% заданьня. У Полачыне ня выканана і 2%. Наагул значна адстаюць Віцебшчына, Полачына, Аршаншчына і Магілёўшчына... Неабходна тэмп работы па рэалізацыі пазыкі ўзмацніць.

Злупілі сёмую скуру з сяляніна, а цяпер хочуць яшчэ штось з яго выемактаць пры помачы штыка чэкіста.

## Раяшнік.

**(Пра выбарныя рэзультаты і пра пасольскія мандаты).**

Пад выбары дый „сытуацыі“,
ды пад рожныя іпчэ „камбінацыі“
аб чытачох вось забыўся —
і з „катарынкаю“ быў ўжо спыніўся, але... каб быць у парадку і давясьці ўсё да ладку—
як той казаў
— даць справаздачу —
пра банкруцтва чые, мо пра у дачу, дык у першых вершах сваей „катарынкі“ —
— пачну я з „едынкі“..,
якая на дамох, ліхтарох, на парканах, у тэатрах, кіно, аэрплянах, пад радыё, музыку, песьні —
— хоць ты тут трэсьні
і галасы хоць лічы на‘т на вагу, але яна ўзяля перавагу.
Гэта жа ня жарты?!
Ма быць нумар быў варты, каб за яго галасавалі і большасьць мандатаў ім далі...

---

А з „блёкам“ — „камфуэ“, не памог і з жыдамі хаўрус
— для Народу —
бо на гэтаю згоду, у Сойм дый ў Сэнат, атрымалі мандат ўсё тыя паночкі
— былыя паслы, галубочкі—
Ярэміч, Рагуля, ў Сэнат Багдановіч, дый з цэнтру Каруза, Юхневіч, Стэповіч, а для вёскі, ці гміны а на‘т для павета, як выглядае справа ўся гэта, бо для іхняга вось брата
— ні воднага ні далі мандата—
Але за розум, за спрыт за уменьне
— Яроме мае ўжо „пачценьне“.
А „спадар“ ізлаўчыўся ў канец і каб не падвёў Валынец, дый ня уцёк за кардон,
— „спадараў“ інакшы-б быў тон. —
Але гэта яму ня ў паражку, бо заместа
— Валынца мы бачым Мурашку — у Сойме Высокім, для нас ўжо далёкім.

---

А „гурткі“ ў Наваградчыне
— хоць і спалі —
а што трэба—усім „прапісалі“,
і каб ня „едынка“, брацішка,
— ўсім сьпіскам была-бы там „крышка“ —
і дарма з-за мандата „калашмацілі“ усе брат брата

---

А вось „цёткі“, як ні мітусіліся, ў якіх сьпісках ня лічыліся
А ні ў Сойм, а ні ў Сэнат—
не дастаўся ім мандат,
— быццам „заколодзіла“, —
але гэта нікому не пашкодзіла.

---

Але што шкода, як той казаў,
— нат і абідна, —
што Адамаў у Сойме ня відна
— ні ксяндза Станкевіча, ні Більдзюкевіча. — Што негавары, а гэта главары!

Шэйнэ-катарынка.

# Адозва

## Беларускага Навуковага Кабінэту ў Празе Чэскай.

**Да ўсіх беларускіх навуковых установаў, культурна-прасьветных арганізацыяў і дзеячоў ды рэдакцыяў часопісаў, як за межамі, гэтак і ў краю.**

**Вельміпаважаныя Грамадзяне!**

Маемо гонар наведаміць Вас, што ў Празе заснаваўся Беларускі Навуковы Кабінэт, як беларуская навукова-дасьледчая ўстанова, дачасна пры Украінскім Інстытуце Грамадазнаўства, маючы на мэце ў будучыні адасобіцца і зусім усамастойніцца, ды прыступіў да свае чыннасьці з лістапада месяца 1927 г.

У бліжэйшым часе Беларускі Навуковы Кабінэт ставіць сабе гэткія заданьні;

1) Зьбіраньне і сыстэматызаваньне матэрыялаў аб Беларусі ў галіне геаграфіі, гісторыі, літаратуры і мастацтва, гаспадаркі ды інш., а таксама матэрыялаў да гісторыі беларускага вызвальна-адраджэнскага руху.

2) Арганізацыя бібліятэкі беларусазнаўства і беларускага музэю-архіву.

3) Навуковы досьлед і вывучаньне асаблівасьцяў Беларусі, як геаграфічнай, культурна гістарычнай, сацыяльна-эканамічнай і лінгвіністычнай адзінкі ды яе мейсца ў сыстэме ўзаемаадносін народаў Усходняе Эўропы.

4) Дасьледжваньне прыродных багацьцяў Беларусі, сучаснага гаспадарча-эканамічнага, культурнага і палітычнага стану Беларускага Народу, тэндэнцыяў і пэрспэктываў ягонага разьвіцьця, а таксама вывучаньне праўных нормаў, якімі фактычна рэгулюецца гаспадарчае, культурнае ды палітычнае жыцьцё Беларускага Народу ў абставінах розных рэжымаў.

5) Высьвятленьне агульных падвалін самастойнага існаваньня Беларусі ды ўключаньня яе ў сусьветную сыстэму культурнай гаспадарчай і палітычнай міжнароднай узаемнасьці ды зьбліжаньня.

6) Дзеля зьдзейсьненьня гэтых заданьняў Беларускі Навуковы Кабінэт, у асобе яго сэкрэтара-кіраўнічага, запрашае адпаведны лік сталых супрацоўнікаў-карэспандэнтаў, выпісвае беларускія пэрыядычныя ды інш. выданьні, ладзіць даклады, падрыхтоўвае да друку матэрыялы, ладзіць іх выданьні, каб у гэтакі спосаб—шляхам выданьня адумыснага зборніку, а таксама брашур ды інш працаў Б. Н. К. — знаёміць шырэйшыя колы беларускага і чужога грамадзянства аб узапраўдным стане Беларусі.

Даводзячы аб гэтым да Вашага ведама, зьвяртаемся разам з тым заклікам да Вас аб сталым высыланьні ў бібліятэку беларусазнаўства Вашых друкаў ды, у меру магчымасьці, матэрыялаў музэйна-архіўнага характару ў музэй-архіў Беларускага НавуковагаКабінэту.

У склад Навуковага кабінэту ўваходзяць наступныя асобы: Тамаш Грыб, сэкрэтар — кіраўнічы (сацыялёгія).

Сталыя супрацоўнікі: Мікалай Чарнэцкі (гісторыя), Сяргей Бусел (эканоміка), Мікалай Ільяшэвіч (геаграфія), Ігнат Саланеўскі (гісторыя беларускае літаратуры).

Беларускі Навуковы Кабінэт прыступіў ужо да працы і часова месьціцца: Praha III, Serikova

---

Б. ДРУЦКІ.

## СЯЛЯНЕ і РАКА.

(*З баек Крылова*).

Ад разарэньня,  
Якое прычынялі ім руччы штогодзьдзя  
Вясной і восеньню у палаводзьдзе —  
Ня стала у сялян цярпеньня.  
Дык вось, сабраўшысь разам мужыкі  
Усю гэту справу абсудзілі  
І рашылі:  
Ўраз з жалабай зьвярнуцца да ракі.  
У гэтую раку усі руччы упадалі.  
Дзеля таго яе сяляне пачыталі  
Начальствам усіх руччоў суседніх  
І спадзяваліcь ад яе  
За шкоды усе свае  
Адшкадаваньняў адпаведных,  
А галоўнае: загаду руччам усім  
Шкодзіць каб ня сьмелі ім.  
А шкоды усе. што ім руччы зрабілі,  
Вялікія ўзапраўду былі:  
У аднаго: падмочана і згніла жыта;  
Запруда у млыне — размыта;  
Пры самай вёсцы мост зьнясло,  
На сенажаці — ілу нанясло;  
Утопла шмат жывёлы з вёскі,  
З двароў пазьнесяны бярвёны, дошкі...  
Словам куды ні абярнешся —  
На шкоду нейкую наткнешся...  
А што найгорш і больш абідна,  
У чым прызнацца нават стыдна —  
Нікчэмныя руччы усё гэта нарабілі!  
Хай глыбінёй багаты-б былі,  
Ці многа мелі-бы вады...  
А то... Ну проста абурэньне!  
Чаму рака? Стаяць на ёй вось гарады,  
А не чуваць пра гэткія здарэньні.  
Цячэ яна спакойна і ня псуець  
Дабытку жыхаром бярэжым.  
Відаць як сьлед яна закон шануець.  
А як начальства, дык й руччам мяцежным  
Рака павінна паказаць,  
Як трэ' законы шанаваць.  
Пайшлі з прашэньнем да ракі.  
Ад вёскі нашай хадакі.  
Прыйшлі, глядзяць  
І нос на квінт спусьцілі...  
Убачылі яны між рэчаў, па рацэ што плылі,  
Свае, рукамі зьнесяныя да ракі...  
Пагледзілі на гэта бедныя, уздыхнулі,  
Дый моўчкі у хаты павярнулі...

Прыклад здаецца ясны нам:  
Дарэмна праўды хто шукае  
І справядлівасьці ўзывае  
Там,  
Пад'уладнага дзе старшы пакрывае  
І дзеліць ўсё з ім папалам!

## Гаспадарчы аддзел.

### Парцэляцыйны плян на 1929 г. на тэрэні нашага краю.

На падставе загаду Рады Міністраў, апублікаванага ў № 50 „Monitoru Polskiego" парцэляцыйны плян на тэрэні нашых зямель выглядае гэтак:

1) На тэрэні віленскага земскага вокругу вызначана на парцэляцыю: з грунтаў Дзяржаўнага Рольнага Банку 500 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 71 гэкт., роўным чынам з прыватных грунтаў 10,400 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 3,947 гэкт.

2) На тэрэні горадзенскага земскага вокругу з грунтаў Дзярж. Рольнага Банку — 4,300 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 467 гэкт., і з грунтаў прыватных 9,000 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 3,334 гэкт.

3) На тэрэні брэсткага земскага вокругу з грунтаў Дз. Рольн. Банку 8,000 гэкт., і з прыватных грунтаў 14,000 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 8,716 гэкт.

Акрамя гэтага на тэрэні Беластоцкага ваяводзтва, часткова належачага да нашага краю, вызначана на парцэляцыю з грунтаў Дз. Рольнага Банку 2,300 гэкт. і з прыватных грунтаў 4000 гэкт., з якіх ужо распарцэлявана 1389 гэкт.

### Новыя самаўрадовыя касы пазычковыя.

12 сакавіка Віленскі Ваявода зацьвердзіў статут новых самаўрадавых касаў пазычковых у Ашмяне і Паставах. Ашмянскі соймік на паседжаньні 28 лютага г. г. вызначыў на закладовы капітал сваей касы 20,000 зл. Соймік пастаўскі вызначыў на гэтую мэту 10,000 зл.

Абедзьві гэтыя касы паветовыя маюць на мэці аказаньне ўрадавай запамогі дробнаму і сярэдняму ральніцтву, дробнай прамысловасьці і рамясьніцтву. Другім заданьнем гэтых касаў ёсьць зборка зьберэганьняў і стварэньне ўласных рэзэрваў, бо за кожваю касаю стаіць соймік з усею сваею маемасьцю і даходамі. Дзеля гэтага кожны грамадзянін можа бяз страху і рызыкі ўкладаць у гэтыя касы свае зьберажэньні.

### Новыя Касы Стэфчыка.

У працягу мінуўшага месяца па ініцыятыве цэнтральных Spółek Rolniczych адчыняны Касы Стэфчыка ў наступных мейсцах: Тварычу (Сьвенцянскі пав.), Грэбоўцу (Лідзкі пав.), Забрэзі (Валожынскі пав.) Цырыні, Морыні і Ожычках (Наваградзкі пав.).

## Сярод газэтаў.

Выбары да Сойму і Сэнату закончыліся. Гарачыня прайшла. Усе пачынаюць падлічваць свае прыбыткі. Толькі ніхто ня хоча прызнаць сваіх стратаў, нават калі яны для усіх відочны. Гэтак „Бел. Дзень" (№ 9) піша:

> Пабеда № 1 — факт, катарага ніхто ня можа закрэсьліць. З гордасьцю можам сказаць, што пабеда гэтая ёсьць адначасна і нашаю пабедаю, бо з усіх беларускіх палітычных кірункаў толькі мы зразумелі і паверылі ў той пералом, які павінен быў настуціць пасьля маёвага перавароту ў адносінах паміж народамі Польшчы і ў адносінах Польскае Дзяржавы да Беларускага Народу.

І яшчэ дальш —

> ня будзем скромнікамі падобнымі ца нявінных дзяўчынак. Без „Бел. Дня", без яго штодзеннай працы ў працягу цэлага году.. не было-б такога трыумфальнага паходу № 1 праз беларускую вёску...

Мімаволі успамінаецца з байкі Крылова „Вол і Муха" гэткая заява мухі: „мы пахалі".

## ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

— **Выязд п. Ваяводы да Варшавы.** Віленскі ваявода п. Рачкевіч выехаў па службовым справам на некалькі дзён да Варшавы.

— **Беларускі сэнатар.** П а Віленшчыне застаўся выбраны у сэнатары п. Вячэслаў Багдановіч са сьпіску № 18— блёку нацыянальных меншасьцяў — былы сэнатар.

Ня робячы ніякіх закідаў проці паноўна выбранага прадстаўніка ад Беларускага Народу ў Сэнат, аднак-жа мусіма сканстатаваць той факт, што папярэдняя палітыка нашых павадыроў і іхнія асабістыя выпады адзін супраці аднаго нажаль ўплынулі і на Народ, і чыста нацыянальныя сьпіскі ня мелі пасьпеху.

Куды-ж падзеваліся беларусы з Наваградчыны?!

Калі у той час, як украінцы маюць сваіх 10 сэнатараў, нават немцы 4-х, мы толькі аднаго сэнатара на Віленычыне, дый і таго толькі як спэцыяліста па царкоўным справам і выбранага пры дапамозе галасоў іншых нацыянальнасьцяў з № 18.

Сорам нам, беларусы!!...

— **З Прагі Чэскай.** У Празе Чэскай цяжка захварэў і паложаны ў Збраславі ў клініку Старшыня Рады Б. Н. Р. Пётра Крычэўскі.

— **Аднаўленьне працэсу Грамады.** Пасьля 2-х тыднёвага перарыву 12 сакавіка зноў распачаўся ў Віленскім Акружным Судзе працэс Грамады. Ідзе дапрос сьведкаў.

— **Вынятак з руху папяровых 2-х златовак.** На падставе распараджэньня Міністра Скарбу ад 1 красавіка г. г. трацяць плацяжную моц двухзлотавыя папяровыя грошы з датаю „**1 maja 1925 roku**". Ад 1 красавіка 1928 г. гэтыя папяровыя грошы будуць прыймацца для абмену у скарбовых касах, у цэнтральнай дзяржаўнай касе, а такжа ў касах усіх аддзелаў Польскага Банку.

# КАРЭСПАНДЭНЦЫІ.

## З жыцьця нашай моладзі.

(*Жухавіцкая гм. Стаўпецкі пав.*)

Вось маючы вольны час, хачу крыху напісаць аб нашай моладзі.

Бязумоўна выхаваньне моладзі належыць да самага галоўнейшага заданьня ў грамадзянстве, бо хто-ж, як не моладзь патрапіць захапіцца ідэаламі Дабра і Справядлівасьці для нашага гаротнага Народу? Аднак у нас выхаваньне моладзі стаіць на, бадай, апошнім пляне. Расьце дзіця, ходзіць у школу гадоў 6 — 7 (за гэты час з горам папалам навучыцца літар і зможа расьпісацца), ганяець на паству скаціну да гадоў сямлаццаці. Вось схэматычны нарыс пляну выхаваньня моладзі.

Пасьля сямнаццаці гадоў хлапец памагае бацьком у гаспадарцы, косіць, жнець, малоціць і наагул спаўняе ўсе гаспадарскія работы. Але гэта ўсім вядомыя рэчы і над імі доўга затрымоўвацца ня буду. Я хачу толькі крыху напісаць аб духовым узгадаваньні моладзі.

Наша моладзь уся амальшто нясьведамая... Гэта тлумачыцца тым, што значны процант нашай моладзі амальшто анальфабэтаў (няпісьменных). У кожнай вёсцы ёсьць школа, пры якой заўсёды знаходзіцца адзін, альбо два вучыцялі, але яны на духовае выхананьне моладзі ўвагі не зварочваюць. Гадоў чатыры таму назад арганізаваліся у некатарых вёсках вячорныя курсы для няпісьменных і малапісьменных, але цяпер нажаль гэтых курсаў няма ні ў аднэй вёсцы. Цяперашніх вучыцеляў, па большасьці з Галіцыі, мала цікавіць беларуская моладзь. А поле для культурна-прасьветнай працы ёсьць. На вёсцы можна залажыць якія-небудзь арганізацыі для моладзі. На жаль, з сорамам мушу прызнацца, беларускіх арганізацыяў для моладзі яшчэ ніякіх няма, але можна зьбеларусчыць польскія. Напрыклад можна залажыць „Koło Młodzieży Wiejskiej“ „Strzelec“ і іншыя.

У зімовы вольны час гэтыя арганізацыі прынясьлі бы вялікую карысьць. Нажаль беларускае грамадзянства, занятае партыйнай грызьнёй, зусім ня зьвяртае ніякае увагі на моладзь. Беларускіх партыяў і групак ёсьць аж занадта, а культурна-прасьветных арганізацыяў для моладзі няма зусім. Кніжак беларускіх на вёсцы знайсьці трудна. Беларускія кніжкі калі купляць, дык абыходзяцца вельмі дорага.

Найлепш гэта, каб старэйшыя мужчыны паклапаціліся залажыць гурток культуральна-прасьветнага таварыства „Прасьвета“. Пры кожным гуртку гэтага таварыства ёсьць бібліятэчка, і гэтай бібліятэчкай, я думаю, магла-бы карыстацца і моладзь. Адно ня добра, што у сябры гэтага таварыства можа паступіць кожны маючы восемнаццаць гадоў. Каб гэта была пры кожным вясковым гуртку „Прасьветы“ сэкцыя для моладзі, дык было-бы надта добра. Я думаю, што тагды-бы у рады „Прасьветы“ стала-бы большасьць з нашай вясковай моладзі і тагды-бы „Прасьвета“ зрабіла вялікую ўслугу для беларускага адраджэнскага руху. Але гэта толькі лятуценьні, а ці будуць яны споўнены? Дай Божа!

*Сьведамы.*

## Успаміны з „Савецкага Раю“.

(*Маладэчна*).

Мусіць шмат хто чуў аб тым, што ёсьць савецкі „рай“. Толькі ня ўсе спрабавалі яго на сваей скуры. Дык я хачу падзяліцца з чытачамі „Грамадзяніна“ тым, што я перажыў за некалькі дзён у гэтым „раю“. Скончыўшы бел. гімназію, я хацеў паступіць у Віленскі Унівэрсытэт. Але ня меў для гэтага матуры, якую здабыць вельмі трудна. Дзеля гэтага мусіў пайсці заграніцу і паступіць у Менскі Дзяржаўны Бел. Унівэрсытэт.

Ну і пайшоў, сабраўшы рожныя манаткі і забраўшы апошнія грошы ў бацькі. Пайшоў нелягальна праз „зялёную граніцу“. Наняў праводчыка, якому заплаціў 15 руб. золата, які мяне і перавёў праз граніцу праз якіясь кусты, равы, лес, хвойнікі, балота і інш.

У 2 вярстах ад граніцы на савецкім баку мяне затрымалі бальшавікі і адаслалі ў Заслаўя, дзе я прасядзеў 2 тыдні. А пасьля адаслалі мяне у Менск. У Заслаўі было трошкі ляпей, бо там хоць даюць есьці як салдатам, але ужо ў Менску дык іншая справа.

Прынялі мяне, як якога вялікага зладзея, упіхнулі ў якуюсь камору і ўсё стаю я, прыглядаюся і бачу, што ў гэтай каморы ёсьць нейкія быццам людзі. Сядзяць па кутках, акасмацеўшыя, брудныя, як малпы. Толькі ўсе цырабяцца, як гусі, вылязшы з ракі. Некатарыя з іх кажуць: што-ж, гражданін, стаіш? сядай, або лажыся. Толькі табе няма мейсца. І мне гэтак зрабілася цяжка на сэрцы, што я ня мог устаяць і пахінуўся на стол, а у вачох зрабілася цёмна і толькі язык гавора гэтае: „рай“, „рай“.....

У гэты момэнт прыходзя дазорца і кажа: „ўжо трэба лажыцца спаць!“ — а сам не паглядзеў нават, ці ёсьць мейсца.

Пастаяўшы крыху, я прыкарнуў на стале. Ажно хтось штурхае мяне пад бок і кажа: „эй, гражданін! нельга спаць на стале, бо трапіш у карцэр!“. Я ўстаў ды мусіў ужо легчы на зямлі. Ажно ізноў прыйшоў той-жа дазорца і кажа: „вось ты чалавек, а не скот, што на зямле ляжыш. Уставай!“

Пасьля гэтага мяне ўжо такая разабрала злосьць, што я

кажу: „ай паночку, у вас якраз гэтак і ёсьць, што людзей за быдла лічаць!“ Пры гэтым я заўважыў, што суседзі мае сталі уставаць, цярэбячыся, на якіх так і поўзалі, як мурашкі.

На трэці дзень мяне вызвалі зьнімацца, а на сёмы дзень на дапрос. Пыталі аб усім, а пасьля кажуць: —чаго вы сюды прыйшлі?—Вучыцца, паночку, далей ў Бел. Дзярж. Універсытэці.—А вы партыйны? —Не, я ў жадныя партыі не уваходжу. Хачу працаваць на культурнай ніві...

На гэтым і скончыўся першы дапрос.

На другі дзень зноў вызвалі і ўжо абвінавачваюць у тым, што я быццам польскі шпіён. Сьледавацель задае пытаньне: „вы нам скажыце, хто вас паслаў сюды і якую вам далі выпаўніць задачу?“ Я зусім абамлеў ад спугу. І калі ачнуўся, дык убачыў, што ляжу на нарах зусім мокры. Мне кажуць, што я быў змлеўшы і яны мяне аблівалі вадою.

А я ўвесь час толькі і паўтараю: „рай“, „рай“...

Гэта так беларусу ўсюды дзьверы адчыняны, гэта так яго любяць, што у сваім краі чужынцы шпіёнам завуць. Гэта-ж свабода, гэта-ж „рай“.

Не, ужо друг раз ня пойдзеш ў „рай“, дзе замест мядовых рэчак — плыве атрута распусты, зьдзеку і ярмо жыдоўшчыны, якое пануе над усходнімі землямі.

*Бяздольны.*

13. III. — 18 г.

## Юрыдычныя парады.

**Грам. Я. Г-ку.** *Запытаньне:* Брат мой ў 1923 годзе выехаў у Амэрыку. Выежджаючы, ён запрадаў чужой зусім нашаму роду асобе сваю надзельную зямлю 8 дзес з буцынкамі і пакінуў даверанасьць на імя швагры, у якой даў яму права закончыць прадажу, г. зн. зрабіць купчую. Швагер—паўнамоцнік выдаў купчую ў 1924 г. Зямля прадана па надта нізкай цане, апрыч таго — гэта нашая бацькаўшчына і я жадаў-бы зьніштожыць купчую і адабраць гэную зямлю.

Ці можна гэта зрабіць і як?

*Адказ:* Па закону — радавую зямлю могуць выкупіць ад чужынца крэўныя прадаўца па цане, якая паказана у купчай крэпасьці. Але выкупіць можна **толькі ў працягу трох гадоў** ад дня закончэньня фармальнасьцяў па прадажы. Значыцца пасьля уцьверджаньня купчай, а ў нас цяперака — пасьля ўрэгуляваньня гіпатэкі. Купчая, як пішаце, зроблена ў 1924 г. Трэ устанавіць, калі закончаны чыннасьці па прадажы і была ці не ўрэгулявана гіпатэка. Калі ад гэтых канцовых мамэнтаў не прайшло яшчэ трох гадоў—падавайце ў суд просьбу аб прызнаньні за вамі выкупу. Прыйдзецца заплаціць: 1) цану, якая паказана ў купчай, якая ўносіцца ў дэпазыт суду адначасна з прашэньнем аб прызнаньні права выкупу, 2) усе выдаткі пакупшчыка па налепшаньню зямлі і г. д. і 3) крэпастныя аплаты.

**Падп. Язэпу.** *Запытаньне:* У 1910 годзе я здаў у арэнду на 36 гадоў пад выйстрайку — адну дзесяціну зямлі. Арандар — будынкі пабудаваў. За 10 гадоў арэнду, лічачы па 15 руб. у год, я атрымаў. За апошнія была угаворана плата па 20 руб. у год. Кантракт быў натарыяльны і арыгінал выданы быў арандару. Копіі ў мяне ня было, Цянер арандар плаціць толькі 15 р і кажа, што так належыць па кантракту.

Што і як зрабіць, каб арандар плаціў згодна з дагаворам па 20 р. і ці можна ўзыскаць за мінуўшы час (ад 1920 году), не даплочаныя ім па 5 руб.

*Адказ:* Калі кантракт быў зроблены ў натаруса, — дык можна знайсьці сьляды яго ў архіве Віленскага Акружнага Суду. Калі ня нойдзеце, дык трэ выбраць з архіву пасьведчаньне, што кніг няма за гэты год і тады можна даказаць сьведкамі зьмест кантракту і яго варункі. Ці можна будзе дастаць копію кантракта ці даказваць яго варункі сьведкамі, трэ зьвяртацца ў суд. Іначай змусіць арандара нельга. За мінуўшы час таксама можна сьцягвуць на суду.

# Усячына.

## Вучоныя сабакі.

Аксфордзкі прафэсар мова знаўца Макс Мюлер калісь даказаў, што ўвесь слоўнік ірляндзкага пастуха складаецца з 300 слоў. Пры тым аднастайным жыцьці, якое вядуць пастухі, гэтых 300 слоў зусім даволі. Праўда, не для усякага пастуха даволі ведаць 300 слоў. Але для сабакі дык зусім досыць.

Нядаўна ў псыхолёгічнай лябораторыі Калумбійскага унівэрсытэту быў прадэманстраваны перад 75 слухачамі сабака (аўчарка), які разумея роўна столькі слоў, колькі ірляндзкі пастух Макса Мюлера, а ласне — 300 англійскіх слоў. Сабаку гэтага называюць „Фелло“, што значыць - прыяцель. Па словам яго гаспадара містэра Гэрбэрта з Дэтройта, „Фелло“ узапраўды пэўны прыяцель. А паводле апініі прафэсара Калумбійскага унівэрсытэту Вэрдэна гэты сабака па свайму розуму не ўступае 8 гадаваму дзіцяці.

Увесь час дэманстрацыі „Фелло“ выпаўняў усе загады праф. Вэрдэна.

Праф. Вэрдэн аддаваў свае загады то гучным голасам, то ціхім, некалькі разоў выходзіў нават з пакою і гаварыў праз шчылку дзьверы. Неабходна было ўстанавіць, запраўды сабака разумее паасобныя словы, ці рэагуе толькі на выразныя рухі гаспадара.

— Ідзі да дзьверы, — кажа Гэрвэрт, і „Фелло“ нясецца да дзьверы.

— Падыйдзі да акна і выгляні...

— Палажы лапу на вэнтэлятар..

— Скокні на стол...

— Падыйдзі да той пані, якая сядзіцьззаду і палажы ей галаву на калені..

І „Фелло“ выканаў усё, што ад яго жадалі.

„Фелло“ адразу запамінаў тых асобаў, якіх яму прадстаўляў Гэрбэрт.

— Вось містэр Сміт—Фелло.

Праз нейкі час Гэрбэрт гаварыў:

— Фелло, палажы галаву на калені містэра Сміта! — Фелло выконвае загад.

— Фелло, не дапускай нікога да містэра Сміта—і Фелло, сеўшы перад ім, нікога не дапускаў.

Калі Гэрбэрт хоча пахваліць сабаку, дык кажа: „Добры сабака". Калі незадаволены, дык кажа: „які сорам!" У першым выпадку Фелло глядзіць весела, а ў другім апушчае галаву, быццам сароміцца.

Гэрбэрт цяпер аб'яжджае са сваім выхаванцам псыхолёгічныя лябараторыі Злуч. Штатаў, дзе вучоныя маняцца акрэсьліць характар мысьлёвых працэсаў гэтага разумнага сабакі.

А вось другі надзвычайны экзэмпляр з сабачай пароды.

На сабачай выстаўцы у Бастоне агульную ўвагу зьвярнуў на сябе размаўляючы сабака. Гэта французкі бульдог па клічцы „Прынцэса Жакэліна". Ён высокім візглівым голасам так брэша, што зусім выразна можна распазнаць некатарыя словы, як „Аллё", „Элеватар", „хачу", „не хачу". Калі яго пытаюцца: „На чым ты падымаешся, калі вярочаешся з гаспадаром на сваё памешканьне?"

— Элеватар! (пад'ёмная машына), адказвае „Прынцэса Жакэліна.

Размаўляючы сабака вывезяны з Францыі і цяпер зьяўляецца уласнасьцю містэра Робінзона.

Гаспадар клянецца, што ніколі не дрэсыраваў „Прынцэсу Жакэліну" і нічаму яе ня вучыў. Па яго славам, сабака навучыўся размаўляць, бавячыся з дзецьмі.

## Марскія ўзбраеньні Англіі і Амэрыкі.

З Лёндану паведамляюць, што на канфэрэнцыі аб разбраеньні, якая распачнецца у Жэнэве на гэтых днях, Англія запрануе новы плян разбраеньня на моры. Пры гэтым падкрэсьляецца, што Англія пакуль мае самы вялікі на сьвеце ваенны флёт і пануе на моры. Пастанова Вашынгтонскай конфэрэнцыі аб скарачэньні флётаў Англіі, Амэрыкі і Японіі, як 5 : 5 : яшчэ ня праведзяны ў жыцьцё. Англія мае 4 браніраваных крэйсары, Амэрыка — 1 крэйсароў — Англія 49, Амэрыка—32, параходаў — баз для паветранага флёту Англія — 8, Амэрыка — 3. Але што датычыць баявых адзінак меншага тыпу, дык з гэтага боку першанства за Амэрыкаю. Амэрыка мае 300 зьнішчыцеляў, Англія 150 і Японія 121. Затое большасьць амэрыканскіх адзінак гэтага тыпу старай канструкцыі, у той час як усе судны аглійскага флёту належаць да навейшага тыпу.

## Людзі старага закалу.

У Ўсходняй Галічыне у в. Дзідзёва Ліскоўскага павету памёр жыд Ляйве-Фэльд, які меў больш за 125 гадоў. Па сябе ён пакінуў ўдаву, якая мае цяпер 119 гадоў, а жыў з ёй 100 гадоў. І гэта не абрыдла ім. Старая натта сплакалася на хаўтурах свайго мужа. Найстаршая дачка мае цяпер 80 гадоў.

Сам Фэльд ніколі не хварэў і да апошняй хвілі жыцьця быў у прытомнасьці. Сьмерць меў лёгкаю. Проста заснуў.

# Навука і тэхніка.

## Механічныя вочы.

Адзін ангельскі вынаходца выдумаў прыладу, якая дае магчымасьць бачыць у шмат разоў далей, чымся простым вокам. З гэтай прыладай рабілі вопыты у прысутнасьці вучоных. Прылада перадала нават дым ад цыгаркі, якую курылі за 10 кілёмэтраў.

## Цьвёрды сьпірытус.

У Бэрліне выпушчаны ў продажу ў невялікіх плітках цьвёрды сьпірытус. Каб зрабіць з яго гарэлку, трэба такую сьпірытусовую плітку разьвесьці ў вадзе. Навіна карыстаецца пасьпехам сярод бэрлінскіх выпівак. Ня дарма немяц выдумаў малпу.

## Выключэньне Янкі Станкевіча з Партыі.

„Сял. Ніва" падае, што атрымана камуніт Беларускага Сялянскага Саюзу з Прагі наступнага зьместу:

„Гэтым прэзыдыум Беларускага Сялянскага Саюзу ў Празе даво дзіць да ведама, што па дакладным разабраньні палітычнае акцыі ў краю б. сябры Б. С. С. у Празе гр. Янкі Станкевіча на моцы пастановы агульнага сходу Б. С. С. у Празе ад 14 студзеня 1928 г. прэзыдыум Саюзу на паседжаньні ад 12 сакавіка г. г. пастанавіў дэфінітыўна выключыць Янку Станкевіча з ліку сяброў Б. С. Саюзу ў Празе.

Прэзыдыум Б. С. С. у Празе пры гэтым канстатуе, што цэлая акцыя Янкі Станкевіча ў Зах. Беларусі вялася і вядзецца выключна на ўласную адпаведнасьць, у разрэз з жаданьнямі і дырэктывамі Бел. Сял. Саюзу ў Празе.

Якое-б то ня было ужываньне Б. С. С. ў Празе Янкаю Станкевічам дзеля сваіх мэтаў, уважаецца самазванствам.

*Прэзыдыум Б.С.С. ў Празе.*

## КУТОК ЖАРТАЎ і СЬМЕХУ.

### У аптэцы.

Да аптэкі заходзіць сялянін і просіць даць глаўбэравай солі. Дзеля таго, што гэткая соль ёсьць у адным відзе для жывёлы і ў другім для людзей, аптэкар пытае:

— А для каго гэта соль, для чалавека?

— Не...

— Для скаціны?

— Не.,.

— Дык для каго-ж, нарэшце?

— Для нашага вучыцеля.

## Ад Адміністрацыі.

АДМІНІСТРАЦЫЯ газэты „ГРАМАДЗЯНІН" папярэджае сваіх чытачоў, што газэта „ГРАМАДЗЯНІН" будзе высылацца толькі былым платным падпісчыкам „Беларускага Слова", а бязплатную высылку спыняе ўсім, апрача гурткоў „Прасьветы" і бібліятэк чытэлень іншых беларускіх асьветовых арганізацыяў.

Адказны Рэдактар — Выдавец Тодар Вернікоўскі Druk Bajewskiego Wilno.